# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
385 Alabama Ave, Apt. 17, Brooklin 7, New York, U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 16 (40) 15 Жніўня 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. August 15, 1953 Vol. IV. № 16 (40)

# Вымена ваеннапалонных

Пасьля падпісаньня, наўсуперак наважным пратэстам прэз. Паўдзённае Карэі Сынмана Ры, замірэньня ў Карэі, якое запыніла звыш трохгадовае змаганьне саюзьнікаў з камуністычнымі захопнікамі Карэйскае рэспублікі, паміж абодвума бакамі пачалася днямі прадугледжаная умовамі замірэньня вымена ваеннапалонных.

Камуністыя паведамілі саюзьнікаў, што ў іхным палоне знаходзяцца 12.763 саюзныя жаўнеры, у тым ліку 3,312 амэрыканцаў із іх. Дынам на чале. Усе яны, за выняткам... 7-х амэрыканскіх жаўнераў, у тым ліку колькіх нэграў, якія адмовіліся вярнуцца, як выявілася пядаўна, жадаюць звароту на Радзіму. Згаданая лічба 7, гэта, кропля ў моры, раўнуючы да лічбы камуністых, якія адмовіліся ад рэпатрыяцыі ў свае чырвоныя краіны. Між імі — 7.800 палонных карэйцаў і 14.500 кітайцаў. Рэшта 27.000 чырвоных палонных, якія адмовіліся ад звароту дахаты, былі, як ведама звольненыя з палону Сынманам Ры яшчэ да падпісаньня замірэньня.

5-га жніўня першыя партыі палонных прыбылі для вымены ў Панмунджон. Саюзныя прадстаўнікі былі нявымоўна узрушаныя дрэнным выглядам і станам першых групаў вызваленых чырвонымі палонных. Вялікая колькасьць сярод іх цяжка хворыя на сухоты й іншыя хваробы. Шмат хто з вызваленых ужо саюзных жаўнераў паведамляе аб жудасных дачыненьнях да іх чырвоных захопнікаў.

Камуністыя, — кажуць яны, — зусім ня лічыліся із ніякімі міжнароднымі пастановамі, арыштоўвалі афіцэраў пры найменшай нагодзе, прыстрэльвалі саюзных жаўнераў тысячамі ў часе пешых маршаў у далёкія лягеры, білі іх да паўсьмерці...

Неўзабаве выявілася, што ў чырвоным палоне загінула звыш 9.700 адных амэрыканскіх палонных, ня лічачы карэйцаў, зь якімі камуністыя наагул ня лічыліся. Частка гэтых нешчасьлівцаў, як вынікае з апавяданьняў іхных сяброў, кіненая ў савецкія турмы, частка вывезеная ў кітайскія, а навет савецкія канцлягеры, а найменш 8.000 загінула ад голаду, хваробаў, або кулі ці штыха камуністычных катаў.

# Нічога новага у прамове Маленкова

На апошняй сэсіі Вярхоўнага Савету СССР старшыня савету міністраў Маленкоў выступіў з двухгадзіннай прамовай. Прамова новага бальшавіцкага дыктатара, як і трэ' было спадзявацца, выклікала ў заходнім друку безьліч камэнтараў, здагадак, а ў некаторых дасужых і непапраўных у сваёй дурноце газэтных пісакаў гэтая прамова зьявілася аж прагалошаньнем адступленьня ад даўна вызнанай лініі, адыходам на іншы шлях у палітыцы нутраной і вонкавай новаўсплыўшых і акрыяўшых маскоўскіх бальшавіцкіх галавароў.

Называюць прамову Маленкова аж сусьветнай сэнсацыяй. Бачаць у ёй новы паварот у савецкай палітыцы. Сьцьвярджаюць, што яна зьяўляецца адступленьнем ад Сталінавага курсу на індустрыялізацыю СССР, пры якім ігнараваліся штодзённыя патрэбы жыхарства савецкай імпэрыі. Заяўляюць, што Маленкоў нібы адмовіўся ад палітыкі вайны, як адзінага сродку вырашэньня міжнародных пытаньняў.

Адкуль усё гэта ўзялося? Што зьявілася падставаю для гэткіх неспадзяваных і палітычна дэзарганізуючых прабальшавіцкіх высноваў? Адно з двух — ці сьляпое няведаньне даўнай палітыкі бальшавіцкага Крамля ці сьведамае затуманьваньне гэтай палітыкі з мэтаю дэзарыентацыі грамадзкае думкі.

З нашага гледзішча прамова Маленкова ня мае ў сябе нічога прынцыпова новага ў параўнаньні з праводжанай напрацягу дзесяцігодзьзяў палітыкай маскоўскіх бальшавікоў ні ў галіне эканамічна-нутраной, ні ў галіне вонкавай.

Знайшліся дзівакі, якія пачынаюць гаварыць пра нейкі Маленкоўскі нэо-нэп, выходзячы з таго, што новы дыктатар заявіў, што сяньня асабліва важным зьяўляецца „рэзкая зьмена ў вытворстве спажывецкіх тавараў і ў забяспечаньні хутчэйшага разьвіцьця лёгкай і харчовай прамысловасьці". З гэтых словаў ніяк ня вынікае нейкі новы эканамічны курс, гутарка ідзе адно пра неабходнасьць палепшаньня задавальненьня штодзённых патрэбаў падсавецкага спажыўца.

Маскоўскія бальшавікі безьліч разоў прамаўлялі з трыбуны сваіх зьездаў і розных сэсіяў пра патрэбу аддаваць асаблівую ўвагу палепшаньню матар'яльнага дабрабыту жыхароў свае імпэрыі. Гэткія заявы рабіліся асабліва часта ў трыццатых гадох, калі калектывізацыя агаліла была ўсю краіну. Але нам добра ведама, што гэтыя заявы ня прынасілі адчувальнае палёгкі для падсавецкіх людзей, бо яны, як і сяньняшняя падобная заява Маленкова ня былі адступленьнем ад узятага эканамічнага курсу. Для бальшавікоў заўсёды было галоўным фарсаваньне разьвіцьця цяжкой прамысловасьці, бо цяжкая прамысловасьць азначае ўзбраеньне й для самых сябе й для сваіх пятых калёнаў у цэлым сьвеце. Ад гэтага бальшавікі ніколі не адступаліся й не адступяцца, як не адступяцца ад свае адзінае мэты — запанаваць над сьветам. Сталін аднойчы сказаў, што ў сьвеце паважаюць адно моцных, а на ягонай мове гэта азначала як мага больш дывізіяў, гарматаў, самалётаў, падводных лодкаў, кулямётаў.

Маленкоў толькі паўтарыў бясконца робленыя заявы свіх папярэднікаў на чале із Сталіным пра задавальваньне заўсёды незадаволеных спажывецкіх патрэбаў савецкіх падуладных. Бачыць у гэтым нейкае адступленьне ад праводжанай эканамічнай палітыкі азначае нішто іншае, як няведаньне гэтай палітыкі.

Бо аднагалосна зацьверджаны Вярхоўным Саветам праект апошняга бюджэту зьяўляецца найлепшым доказам далейшага ўзбраеньня бальшавікоў і не дае ніякіх падставаў гаварыць пра нейкія зьмены у эканамічнай палітыцы Савецкага Саюзу.

Прынцыпова нічога новага не сказаў Маленкоў і ў галіне вонкавай палітыкі. Вось што ён заявіў:

„Савецкая палітыка — дасягненьне міру шляхам перамоваў — зьяўляецца сталай і асноўнай, а не палітычным манэўрам, як цьвердзяць ворагі СССР... Мы наважна настойваем на тым, што у сучасны мамэнт няма спрэчнага пытаньня, якога нельга было-б разьвязаць мірным шляхам. Гэта стасуецца й да пытаньняў, пра якія ідуць спрэчкі паміж СССР і ЗША".

Гэтыя словы зьяўляюцца блізу дасло̇ўным паўтарэньнем заяваў галоўнага майстры бальшавіцкае міралюбнасьці — Сталіна, які пры кажнай важнейшай нагодзе гаварыў пра магчымасьць мірнага супраціснуцтва двух сьветаў і ў гэты-ж час падбіваў усялякімі спосабамі й сродкамі супакой на сьвеце. Маленкоў тут застаўся адданым палітыцы свайго настаўніка.

Але не паўстрымаўся Маленкоў, каб не зрабіць нападкаў на ЗША. Ён назваў заходнія кіруючыя палітычныя колы „зарубежнымі прыхільнікамі вайны" і „заатлянтыцкімі ворагамі міру", а паўночна-атлянтыцкі абаронны саюз заходніх дзяржаваў — загрозай міру. Усё, як належыцца, у Сталінавай традыцыі.

Адно было „новае" ў прамове Маленкова — гэта тое, што СССР нібы мае вадародную бомбу. Гэтая заява была, бясспрэчна, сэнсацыйнай. Мы ня ведаем, ці бальшавікі запраўды маюць вадародную бомбу. На нашую думку асьветчаньне Маленкова мела найперш значэньне шантажу, звычайнага запалоханьня заходняга сьвету. Ня выпадкам палітычныя колы Італіі зьвярнулі ўвагу на тое, што Масква побач із сваімі „мірнымі намерамі" робіць і важнейшыя заявы й таму прамова Маленкова ня прыносіць супакою, а ўзмацняе нэрвовасьць у Заходняй Эўропе. Гаворачы пра магчымасьць вырашэньня ўсіх спрэчных пытаньняў з заходнім сьветам шляхам перамоваў, Маленкоў казырнуў вадароднай бомбай адно дзеля таго, каб прымусіць заходні сьвет да яшчэ большай падатлівасьці, уступлівасьці перад бязупыннымі патрабаваньнямі імпэрыялістычнай Масквы.

На шантаж Масквы заходні сьвет мусіў-бы адказаць жалезнай дысцыплінаванай згуртаванасьцяй, бо адно той перамагае, хто ідзе з поўнай сьведамасьцяй насустрач загрозьлівай небясьпецы. Але ніколі не пераможа той, хто сьведама, апанаваны боязяй і панікай ўцякае ад гэтай небясьпекі. Бліжэйшы час пакажа ці здолеюць заходнія палітыкі хоць нарэшце ацьверозець ад чаду „новага курсу" маскоўскіх бальшавікоў, падмацаванага на гэты раз аж вадароднай бомбай.

Бясспрэчным зьяўляецца адно, што заява Маленкова пра вадародную бомбу выкліча яшчэ большыя сусьціг ў атамовым узбраеньні.

Нас цешыць, аднак, і абнадзейвае асьветчаньне адказных прадстаўнікоў Вашынгтону, што заява Маленкова ні ў якім выпадку ня зробіць уплыву на амэрыканскую палітыку.

Я. М.

## КРЫЗІС У ІТАЛІІ

Кагадзе ў Італіі быў распушчаны, восьмы паводле ліку, урад дэ-Гаспэры з прычыны недаверу, выказанага Ураду 282 галасамі прадстаўнікоў Палаты Дэпутатаў супраць 263 галасоў за Урад і 27 паўстр. Супраць ураду дэ-Гаспэры галасавалі й скрайныя левыя й скрайныя правыя групы.

Як ведама, дэ-Гаспэры прыхільнік наважнае й няўступлівае антыкамуністычнае палітыкі. Зь вялікімі цяжкасьцямі ўдалося схіліць да стварэньня новага Ураду кансэрватыўнага дэмакрата Пічоні. Аднак, войстры палітычны крызіс у Італіі пануе да сяньня. Новы Урад усё яшчэ не сфармаваны. У склад яго мае увайсьці й сам дэ-Гаспэры, як міністар замежных справаў.

З міністэрскага крызісу ў Італіі вельмі цешацца, перадусім, італьянскія камуністыя й іхныя памагатары — левыя сацыялістыя Нэнні, якія ўпорыста прапануюць у склад новага Ураду цэлы шэраг сваіх прадстаўнікоў.

## Дэманстрацыі галоднага жыхарства Усходняе Нямеччыны

Хваляваньні ў Усходняй Нямеччыне ня спыняюцца. Абураныя забаронаю камуністых карыстаць галоднаму жыхарству Усходняе Нямеччыны з амэрыканскіх харчовых пачкаў, раздаваных працоўным усходнікам у колькіх пунктах заходняга Бэрліну, натоўпы нямецкіх работнікаў, жанок і дзяцей ізноў скрозь выступаюць супроць свае чырвонае улады.

Калі камуністыя пачалі былі адбіраць у галоднага жыхарства атрыманыя ў заходнім Бэрліне амэрыканскія харчовыя пачкі з колькімі фунтамі мукі, тлушчу й цукру, ды скідаць з цягнікоў тых, хто часта вельмі здалёк ехалі па гэтыя пачкі з усіх куткоў Усходняе Нямеччыны, — дэманстрацыі жыхарства прынялі скрозь пагрозьлівыя для камуністых памеры. Згаданыя дэманстрацыі выбухлі былі апошнім часам, ня лічачы Бэрліну, і ў Магдэбургу, Галле, Геры, Ляйпцыгу, Аннабэргу, Мэрзэбургу й Франкфурце на Одэры.

У Котбусе, затрыманы камуністымі на стацыі натоўп падарожных, якія выбіраліся ў Бэрлін па амэрыканскія харчы, моцна пабіў камуністычных агітатараў і ставіў супраціў паліцыі.

Супроць галоднага жыхарства Усходняе Нямеччыны ізноў ужытыя савецкія войскі з танкамі. Ёсьць, як паведамляюць, шмат новых ахвяраў, забітых і раненых. Турмы нанова гаручкова запаўняюцца непакорлівымі нямецкімі работнікамі.

Паводле падлічэньняў галодным немцам Усходніх правінцыяў дагэтуль раздана амэрыканцамі ўжо звыш 2 мільёнаў харчовых пачкаў.

Апошнімі днямі ізноў уведзеная блякада заходняга Бэрліну. На прымежных да саюзных сэктараў пунктах варта значна ўзмоцненая. Камуністычныя радыёстацыі глушаць радыё-перадачы з Захаду. Абвешчаны вельмі вялікія кары за слуханьне перадачаў Голасу Амэрыкі й заходня-бэрлінскае стацыі.

## Хваля забастоўкаў у Францыі

Мала лепшая за італьянскае й сучаснае палітычнае палажэньне ў Францыі. Незадаволеныя з запляннаваных эканамічных рэформаў ураду Ляніэля (паве̇лічэньне падаткаў дзеля ратаваньня цяжкога эканамічнага становішча краю), прафэсыйныя саюзы Францыі (у тым ліку камуністычная і... каталіцкая канфэдэрацыі працы) абвесьцілі забастоўку працаўнікоў транспарту, пошты, электроўняў, газоўняў ды інш. установаў. Ужо колькі дзён у Францыі ня выбіраюцца із скрынкаў лісты й не разносяцца адрысатам лісты. Паштовыя скрынкі даўно перапоўненыя. Не працуюць і тэлефоны. Вуліцы не замятаюцца й сьмецьцё ня вывозіцца. Тысячы турыстых мусілі перапыніць сваё падарожжа там, дзе іх засьпела забастоўка чыгуначнікаў ды шафэроў аўтобусных ліній. Палажэньне ў краіне лічыцца паважным і паграджае з гэткімі цяжкасьцямі й нават крызісам ураду, які даўгога урадаваньня крызісу сфармаванаму ураду Ляніэля.

12 жніўня становішча ў Францыі сталася асабліва пагрозьлівым. Працу кінула 2 мільёны працаўнікоў. У краіне пануе поўны хаос.

# Другая Сэсія Вярхоунага Савету СССР

5-га жніўня ў Маскве пачалася 2-ая Сэсія Вярхоўнага Савету СССР.

Першым пунктам Сэсіі было абмяркаваньне бюджэту Сав. Саюзу й зацьверджаньне прынятых апошнім часам пастановаў прэзыдыюму Вярхоўнага Савету.

Маленкоў, які зьявіўся на залі паседжаньняў хутка пасьля пачатку Сэсіі, быў, ведама, спатканы „бурнымі авацыямі". Разам зь ім на Сэсію прыбылі Варашылаў, Молатаў, Хрушчоў і Кагановіч.

На палучаным паседжаньні Рады Саюзу й Рады Нацыянальнасьцяў быў пастаўлены на абмяркаваньне й зацьверджаны найбольшы ў гісторыі СССР бюджэт, выдаткі якога складаюць 530.500 000.000 рублёў. У сваім дакладзе ў справе бюджэту савецкі міністар скарбу Зьвераў войстра скрытыкаваў цэлы шэраг міністэрстваў, абвінавачваючы іх у нядбайнасьці, раскідлівасьці, нежаданьні працаваць.

На трэцім паседжаньні, на якім прысутнічаў увесь урад СССР, старшыня Рады Міністраў Грузінскае ССР, Бакрадзэ, выступіў із нязвычайна пагрозьлівай прамовай супраць Бэрыі. Прамоўца абвінавачваў Бэрыю ў спробе цалкам зьнішчыць камунізм і адрадзіць у СССР капіталістычны лад. Не адмовіўся прамоўца і ад нагоды абвінавацьць у злачынах Бэрыі ЗША ці „амэрыканскіх імпэрыялістых", якія ўсімі спосабамі, быццам, імкнуцца „распаліць новую крывавую вайну".

Але найбольшаю, як дагэтуль, сэнсацыяй 2-ое Сэсіі Вярхоўнага Савету СССР была прамова Маленкова, прагалошаная 8-га жніўня. У прамове гэтай Маленкоў паведаміў сьвету, што Савецкі Саюз таксама ўжо „вырашыў пытаньне прадукцыі вадароднай бомбаў".

Гэтае асьветчаньне Маленкова было прынятае, асабліва „бурнаю авацыяй".

Як выявілася, сэнсацыйнае прызнаньне Маленкова, аднак, усхвалявала ня толькі удзельнікаў 2-ой Сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, але й заходніх мужоў стану ў палітыкаў. Адны зь іх вераць Маленкову, што СССР мае вадародную бомбу, іншыя — думаюць, што гэта чарговы савецкі прапагандны блеф.

## ПРЫНЯТЫ ЗАКОН АБ 214.000 НОВЫХ ЭМІГРАНТАЎ

Прыняты й падпісаны закон аб дазволе эміграваць у ЗША 214.000 эмігрантам — ахвярам апошняе вайны, між імі 92 тысячам уцекачоў з за зялезнае заслоны, — немцам, палякам, чэхам і уцекачом з Савецкага Саюзу. Закон быў прыняты не надта ахвотна. Шмат хто з сэнатараў і кангрэсмэнаў ЗША выказвалі боязь, каб із новымі эмігрантамі не прасачыліся ў ЗША савецкія агенты. Закон мае быць выкананы напрацягу 3 год.

—о—

### ЗЕМЛЯТРУС У ГРЭЦЫІ

Жудасны землятрус наведаў днямі Грэцкія абтокі. Некаторыя з іх цалкам зьнiклі пад вадой. Звыш 1000 асобаў забіта, а каля 50.000 ранена.

